Інфармацыйны бюлетэнь

БАРМІЦА

1 – 10 чэрвеня 2008 г.

бясплатна

# Івана Шылу выкінулі са школы




3 чэрвеня намесьнік старшыні незарэгістраванага ў Беларусі «Маладога фронту» Іван Шыла быў выключаны з салігорскай сярэдняй школы №4. Прычым, адбылося гэта за дзень да апошняга іспыту, які Іван мусіў здаваць у сераду.

Яшчэ напрыканцы траўня ў школе праходзіў пэдсавет, каб не дапусьціць хлопца да іспытаў, але настаўнікі адзінагалосна прынялі рашэньне — дапусьціць Шылу да экзамэнаў. Іван пасьпяхова здаў матэматыку і расейскую мову, заставалася толькі апошняе выпрабаваньне — ангельская мова.

Прыкладна ў гэты самы час у горад гарнякоў прыехала адмысловая камісія зь Менску, якая, па словах некаторых з пэдагогаў, патрабавала, каб маладзёну ўсё ж ня выдалі атэстат аб сярэдняй адукацыі. Прапаноўвалася нават ануляваць вынікі першых іспытаў, нібыта хлопец сьпісваў, але пэдагагічны калектыў зноў адмовіўся пайсьці на гэты крок.

Як кажа Іван, на дырэктарку школу рабіўся пастаянны ціск. З гэтай нагоды Вольга Сянькова нават напісала заяву аб звальненьні, звольнілі і намесьніка дырэктара па выхаваўчай працы. Перад фактам звальненьня таксама апынуліся начальнік аддзелу адукацыі гарвыканкаму і яшчэ тры намесьнікі дырэктара школы.

У аўторак 3 чэрвеня ў гарвыканкаме ў тэрміновым парадку была скліканая камісія па справах непаўналетніх, якая і прыняла ізноў жа адзінагалоснае рашэньне аб выключэньні Івана Шылы са школы. Такім чынам, хлопец ня зможа здаць апошні іспыт для атрыманьня дыплёму.

Іван усё адно зьбіраецца заўтра ісьці на экзамэн, бо лічыць такое рашэньне незаконным.

«Па-першае, мяне выключалі за маёй адсутнасьцю. Па-другое, калі мяне ўжо дапусьцілі да іспытаў, то ня маюць права пазбаўляць магчымасьці іх здаць бяз важкай прычыны», — кажа І.Шыла.

На думку хлопца, найхутчэй гэта робіцца з той прычыны, каб ён ня змог паступіць у айчынныя ВНУ.

«Калі своечасова не атрымаю дыплём, то давядзецца зьвяртацца ў суд», — гаворыць ён.

Нагадаем Іван Шыла летась быў прызнаны вінаватым па крымінальнай справе за дзейнасьць ад імя «Маладога фронту», але абмежаваўся папярэджаньнем. На рахунку хлопца дзесяткі затрыманьняў і адміністрацыйных пратаколаў. Непаўналетні Іван зьяўляецца адным з найбольш яркіх рэгіянальных актывістаў апазыцыі.

Зьміцер Панкавец

# Хто вывучае настроі студэнтаў?



У рэдакцыю «Нашай Нівы» патрапіла анкета пад назвай «Меркаваньне студэнтаў пра ВНУ і розныя аспэкты свайго жыцьця». На вокладцы пазначана, што распрацаваная яна ў траўні 2008 г. фармацыйна-аналітычным цэнтрам пры Адміністрацыі прэзыдэнта. Анкету гэтую нібыта распаўсюджвалі сярод студэнтаў аднаго зь менскіх ВНУ.

Апытанка прапануе адказаць на 76 пытаньняў. Сярод іх трапляюцца, як датычныя выключна жыцьця студэнтаў, гэтак і аспэктаў грамадзка-палітычнага жыцьця - удзел у будучых парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбарах, стаўленьне да мовы і г.д. Так, студэнтаў просяць адказаць, за якога кандыдата яны гатовыя прагаласаваць на бліжэйшых парлямэнцкіх выбарах, а таксама на прэзыдэнцкіх — у выпадку, калі б яны адбыліся заўтра.

Варта адзначыць, што сярод варыянтаў адказаў знайшлося месца для апазыцыйных кандыдатаў увогуле (выбары ў парлямэнт), і для Аляксандра Мілінкевіча з Аляксандрам Казуліным (выбары прэзыдэнта). Акрамя таго рэспандэнтам прапануецца ацаніць ролю апазыцыі ў нашым грамадзтве ды адказаць на пытаньне, ідэі і праграмы якіх палітычных партыяў найбольш ім імпануюць (у сьпісе прысутнічаюць усе вядомыя апазыцыйныя партыі).

Пытаньне №24 мае на мэце высьветліць, ці лічыць сёньняшняе студэнцтва дастатковай увагу дзяржавы да разьвіцьця нацыянальнай культуры. Наступнае па ліку пытаньне датычыць беларускай мовы — «Ці задавальняе Вас існы стан беларускай мовы ў рэспубліцы?». Асобнае пытаньне высьвятляе ступень дачыненьня студэнтаў да БРСМ.

Рэспандэнтам таксама прапануецца аддаць сымпатыі гістарычным дзеячам (ня больш, чым тром), сярод якіх называюцца князь Вітаўт, Кастусь Каліноўскі, Тадэвуш Касьцюшка, Вацлаў Гавэл, але й Іосіф Сталін, Пётар I, Юры Андропаў. Ідэальнага палітыка сярод замежных дзеячоў прапануецца пашукаць сярод такіх асобаў, як Уга Чавэса, Фідэля Кастра, Нурсултана Назарбаева, Хілары Клінтан ды іншых.

Міжнародную тэматыку працягвае пытаньне пра тое, што найбольш непакоіць сучаснага студэнта ў сьвеце. Гэта й напружанасьць у адносінах Беларусі з краінамі Эўразьвязу, і санкцыі ЗША супраць «Белнафтахіму», і праблемы ў дачыненьнях з Расеяй, а таксама непрыхаваная агрэсіўнасьць зьнешняй палітыкі ЗША ў дачыненьні Беларусі ды іншых краінаў, якая ўвесь час расьце.

Зьвяртае ўвагу на сябе шэраг пытаньняў, прысьвечаных абавязковаму разьмеркаваньню выпускнікоў ВНУ. Адно зь іх мае высьветліць, ці ведаюць увогуле будучыя спэцыялісты пра фінансавую адказнасьць за няяўку на месца разьмеркаваньня.

Асобным блёкам ідуць пытаньні, датычныя СМІ, якім апытаныя аддаюць перавагу. Сярод друкаваных выданьняў прапануюцца на выбар ня толькі дзяржаўныя, а сярод тэлеканалаў — таксама польскія і літоўскія.

Падсумоўваючы, можна адзначыць, што тэматыка і падбор пытаньняў робяць надзвычай цікавымі вынікі апытаньня. Застаецца толькі ўласна пытаньне, ці будуць яны апублікаваныя і даступныя грамадзтву.

Сямён Печанко

# Глыбокае апанавалі скінхэды




У Глыбокім, на пяці брацкіх могілках, пахавана блізу 40 тысячаў чалавек: ахвяраў Халакосту, савецкіх ваеннапалонных, і тых, хто загінуў 3 ліпеня 1944 года пры вызваленьні горада ад карычневай навалы. Заўважце, 40 тысячаў! А ў Глыбокім і сёньня няма 20 тысячаў насельнікаў. Неверагодна, але праз 64 гады ад сканчэньня вайны хадзіць увечары па гораду небясьпечна. Сёньня фашыстоўскія малойчыкі зьбіваюць унукаў ветэранаў Другой сусьветнай вайны. Поўны крах ідэялёгіі!

Аб наяўнасьці скін-хэдаў у Глыбокім да нядаўняга часу нагадвалі толькі надпісы на сьценах будынкаў і аўтобусных павільёнаў, якія гадамі ніхто не зафарбоўваў. Не было іх толькі на сьценах 7-паверхавага Дома Саветаў. А так – скрозь! І шмат хто лічыў гэта дзіцячай забавай. Да нядаўняга часу…

Распавядае Віктар К., бацька Сьвятланы К. :

– Мая дачка вярнулася ўночы з дыскатэкі ўся белая! Трасецца! – Сьвета, што здарылася?– пытаю.

– Тата, не пытайся! Не скажу! А то палезеш у гэтую справу, яшчэ дамоў не вернесься. Буду тады ўсё жыцьцё сябе дакараць…

– І, усё ж?– настойваў я.

– Дай слова, што не пойдзеш разьбірацца.

– Даю.

– Выйшла я з дыскатэкі з двумя хлопцамі. Прагуляцца па горадзе. Падыходзяць “брытагаловыя”, чалавек шэсьць. Адклікалі ў бок майго хлопца.

– Нам не нравится, что ты гуляеш с этой девушкой. Она пойдёт с нами,– кажа скін-хэд.

– Не вашая справа!– кажа мой хлопец.

– Ах так! Получи!

Мой хлопец ляжаў у непрытомнасьці на асфальце. Ягоны сябра памкнуўся ў дапамогу. Аднак і ён застаўся ляжаць на асфальце. Я – ў крык!

– Маўчы! Бо і ты будзеш тут ляжаць, як гэтыя двое.

– Невядома чым бы гэта скончылася,– працягвае далей Сьвятлана,– аднак, адзін з гэтых шасьці скінхэдаў, сказаў: “Оставьте её! Она – моя знакомая”.

– Віктар, зразумела ж, ты распытаў дачку аб колькасным складзе глыбоцкіх скін-хэдаў, іх узросьце, іхняй дзейнасьці,– пытае аўтар гэтых радкоў.

– Колькасны склад – 30-35 чалавек. Ёсьць там і сапляки, але й хапае тых, хто ўжо адслужыў у войску. Займаюцца разборкамі з няўгоднай ім глыбоцкай моладзьдзю. Зьбіваюць! Калі не хапае моцы, запрашаюць полацкіх скін-хэдаў. Колькі трэба: 50? 70? Столькі й прыедзе!

– Магчыма, твая дачка перабольшвае. У страха вочы – вялікія!

– Ведаеш, Казік, я ўсё ж, па гарачых сьлядох, памкнуўся разабрацца з кожным зь іх паасобку. Аднак дачка пераканала: “Тата, у іх у кожнага – нож. Яны вельмі натрэніраваныя людзі. Сама бачыла, як яны шпуляюць нажы. Адзін зь іх шпуляў нож у цагляную сьцяну. Ён трапляў дакладна ў шво паміж цаглінамі. Тата, у цябе ніякіх шанцаў. Сядзі дома!”

– Мы патэлефанавалі сваякам у Віцебск,¬– працягвае далей Віктар. Пытаем: “Ці ёсьць у вас, у Віцебску, скінхэды?”

– Хапае!– кажа брат. Зьбіраюцца ў пэўных месцах. Крычаць: “Зыг хайль!” Што дзіўна: ёсьць сярод іх і людзі якім пад 50 і болей гадоў. Хутчэй за усё – былыя вайскоўцы”.

– Ці паведамляў ты ў міліцыю пра выпадак са сваёй дачкой?

– А што міліцыя! Еду я аднойчы, увечары, на аўто. Наперадзе – патрульная машына. Збавіла ход. На лаўцы сядзяць дзьве дзяўчыны з голымі лыткамі ў мініспадніцах.

– Дзяўчонкі, можат пракоцімся?– пытае міліцыянт.

Дзеўкі пахіхікалі і запрыгнулі ў машыну. Вось і ўся міліцыя!

westki.info

# Китайскую бытовую технику будут производить в Поставах



ОАО «Горизонт» во 2-м полугодии завершит реструктуризацию, проводимую в условиях прекращения госсубсидирования и для расширения сотрудничества с китайской Midea Group, сообщил «Интерфаксу» генеральный директор предприятия Юрий Предко.

По его словам, «на определенном этапе, благодаря господдержке, предприятие смогло сохранить и укрепить свои позиции на рынке и обеспечить стабильные условия для трудового коллектива». «Это также позволило на новым этапе приступить к реализации планов, позволяющих вывести «Горизонт» на качественно иной уровень - прибыльной работе без субсидий со стороны государства, что соответствует общей стратегии развития реального сектора экономики», - добавил генеральный директор.

Он подчеркнул, что реструктуризация АО предусматривает радикальное изменение системы управления и переход от вертикальной к горизонтальной холдинговой структуре. Так, непосредственно ОАО «Горизонт» приобретет статус отделенной от производства управляющей компании с функциями организатора стратегического развития и продаж.

Производственная часть холдинга будет представлена тремя зарегистрированными в СЭЗ компаниями: производитель телевизионной техники и бытовой электроники завод «Горизонт» (100% принадлежит ОАО «Горизонт»), производитель бытовой техники СП «Midea-Горизонт» (доля ОАО «Горизонт» 70%) и «Завод Белит» (г.Поставы, 100% принадлежит «Горизонту»), который также занят под производство бытовой техники и планируется как структура для дальнейшей интеграции с китайскими партнерами.

Кроме того, на базе соответствующих подразделений ОАО «Горизонт» будут созданы транспортно-логистическая компания и сервисная компания, задачей которых является получение основной прибыли от внешних заказов, что повысит эффективность этих активов. Не исключается создание и иных компаний, в частности, сети розничной торговли и предприятий, управляющих недвижимостью и социальными объектами «Горизонта». «Высвобождается значительное количество площадей и земельных участков, и получаемые там доходы будут направлены на развитие производственных проектов», - сказал гендиректор и добавил, что практика внутрикорпоративного субсидирования соответствует опыту мировых лидеров в профильном сегменте.

«В целом наша задача снять непрофильную нагрузку с производственных предприятий и максимально увеличить отдачу от имеющихся активов», - пояснил Ю.Предко. «Сейчас на балансе ОАО «Горизонт» «висит» большое количество неработающих активов, что в целом привело к неудовлетворительной структуре баланса», - добавил гендиректор.

Он отметил, что реструктуризация проходит с согласия отраслевого министерства при поддержке Midea Group и московского офиса Ernst & Young, который проводил due diligence ОАО «Горизонт».

По его словам, реструктуризация АО не приведет к увеличению внутрихолдинговой налоговой нагрузки за счет регистрации производственных предприятий в СЭЗ и включения реализуемой на внутренний рынок продукции в перечень импортозамещения.

Ю.Предко констатировал, что первые итоги работы в новых условиях свидетельствуют об эффективности избранной стратегии.

В октябре 2007 года ОАО «Горизонт» создал СП с китайской Midea Group, которая является одним из ведущих мировых производителей бытовой техники и производит продукцию под целым рядом мировых торговых марок. СП начнет выпуск продукции в IV квартале 2008 года и его продукция будет ориентирована в первую очередь на рынки стран СНГ и Западной Европы.

# Зноў 11-гадовае навучанне




Прынята канчатковае рашэньне пра пераход да 11-цігодкі.

У Беларусі прынята канчатковае рашэнне аб пераходзе на 11-гадовую школу.

Аб гэтым паведаміў журналістам першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Анатоль Рубінаў.

Паводле яго слоў, пераход да 11-гадовай агульнай сярэдняй адукацыі добра распланаваны і не прывядзе да ўзрушэнняў. «Усё лепшае, што напрацавана ў школе, захаваецца. Прынцыпы змяненняў, якія прапануецца замацаваць дэкрэтам, у тым, каб не ўводзіць новаўвядзенні, прызнаныя немэтазгоднымі, але пры гэтым не адмаўляцца ад напрацаванага, каб не рабіць ломкі ў школе», — сказаў Анатоль Рубінаў.

Задача сённяшняй школы — палепшыць якасць адукацыі не за кошт перагрузкі вучняў, павелічэння колькасці гадзін і вучэбных гадоў, а за кошт паляпшэння якасці падручнікаў, выкладчыцкага працэсу, падкрэсліў ён.

Занепакоенасць, што выказваецца ў грамадстве наконт двайнога выпуску вучняў у наступным годзе, Анатоль Рубінаў назваў неапраўданай. Паводле яго слоў, старшакласнікі, якія павінны былі стаць апошнім выпускам 11-годкі і першым выпускам 12-годкі, з’яўляюцца аднагодкамі. Адбылося гэта з-за таго, што ў 1998 годзе дзяцей прымалі ў школу як у падрыхтоўчы клас з 6 гадоў (на 12-гадовы тэрмін), так і ў першы клас з 7 гадоў (на 11-гадовы тэрмін).

Неабходна звярнуць увагу на сістэму цэнтралізаванага тэсціравання. Заданні для тэстаў не павінны быць вельмі складаныя, а арыентаваныя на ўзровень звычайнай сярэдняй школы.

Існуе праблема і з падрыхтоўкай падручнікаў, якія неабходна зрабіць зразумелымі і даступнымі дзецям. Анатоль Рубінаў падкрэсліў таксама, што «галоўная задача школы падрыхтаваць не проста спецыяліста, а паўнацэннага грамадзяніна, гатовага ўступіць у жыццё і далей набываць неабходныя веды».

# Беларуская мова ў Кітае

Кітайскія першаклясьнікі ведаюць беларускую мову лепш за вядучых АНТ.

4 чэрвеня ў інфармацыйнай праграме «Нашы навіны» тэлеканала АНТ быў паказаны сюжэт пра тое, як напярэдадні Алімпійскіх гульняў кітайскія дзеткі вучаць беларускую мову.

Карэспандэнтка АНТ Інэса Плескачэўская распавяла, што гэта ўваходзіць у праграму падтрымкі алімпійскіх зборных. За кожнай з краін-удзельніц Алімпійскіх гульняў замацаваны шэраг школаў, вучні якіх вучаць мовы дадзенай дзяржавы. Усяго у праграме падтрымкі задзейнічана 500 школ. У гэтым спісе, вядома, ёсць і Беларусь.

Карэспандэнтка АНТ душэўна распавяла пра тое, як першаклашкам падабаецца вучыць беларускую мову. У кадры было бачна, з якім задавальненнем дзеткі вымаўляюць «Прывітанне!» і чытаюць дзяржаўны гімн Беларусі.

Але сама аўтарка сюжэта цягам трох яго хвілін не вымавіла ніводнага беларускага слова. Па-руску размаўлялі і студэнткі-выкладчыцы (нашыя суайчынніцы, што вучацца ў Пекінскім універсітэце).

Кастусь Вансяцкі, Радыё Рацыя

# Журналісты і палітыкі будуць супрацоўнічаць



Прадстаўнікі прэсы і дэмсілаў пагадзіліся разам пераконваць людзей у неабходнасці дэмакратычных пераўтварэнняў.

У круглым стале «Узаемаадносіны дэмакратычных сілаў і незалежных СМІ ў Беларусі» прымалі ўдзел журналісты недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, кіраўнікі Беларускай асацыяцыі журналістаў, лідэры палітычных партый і рухаў.

На думку, старшыні Рады беларускай інтэлігенцыі Уладзімера Коласа, прэса павінна больш узважана падыходзіць да крытыкі дэмакратычных палітыкаў, паколькі нашае грамадства яшчэ не з'яўляецца адкрытым і спажывец інфармацыі не мае вялікага выбару СМІ, каб намаляваць для сябе рэальную карціну свету. На яго думку, праца грамадскай камісіі па электронных СМІ павінна дапамагчы больш эфектыўнаму выкарыстанню сродкаў на радыё і тэлебачанні.

Незалежныя СМІ і дэмакратычныя сілы зараз знаходзяцца ў аднолькава складаных умовах працы. Яны павінныя быць больш далікатныя ў сваіх ацэнках адзін аднаго, лічыць намеснік кіраўніка Руху “За Свабоду” Віктар Карнеенка. Журналіст павінен працаваць па прынцыпу “не нашкодзіць”, мяркуе лідэр БСДП(Г) Анатоль Ляўковіч. Падобнай думкі трымаецца рэдактар газеты “Товарищ” Сяргей Вазняк: “Палітыкі не павінны крыўдаваць, а журналісты – забывацца, у якой краіне жывуць”.

Старшыня БАЖ Жана Ліцвіна лічыць, што прэса не можа абслугоўваць палітычныя сілы. Журналісты не павінны ператварацца ў палітолагаў. Місія СМІ – узяць на сябе функцыю форума. Палітыкі могуць аб'яднацца ў тым, каб дамагацца вяртання друку незалежных газетаў у Беларусь, дабівацца адмены забароны на распаўсюд, змагацца за роўныя умовы для дзяржаўных і недзяржаўных газет, вырашэнне праблемы акрэдытацыі. Палітыкі павінны ставіць перад сабой, як звышзадачу, дэманапалізацыю СМІ.

Незалежная прэса, на думку аднаго з намеснікаў старшыні Партыі БНФ Віктара Івашкевіча, з'яўляецца адзіным сродкам камунікацыі палітыкаў з насельніцтвам. Яна павінна агучваць праблемы людзей, даносіць іх да ведама палітыкаў. Але ж прэса не можа пісаць пра тое, што не цікава. Інфармацыйную палітыку выдання павінна вызначаць рэдакцыя, а не назіральная рада альбо камісія, дадае Жана Ліцвіна. Празмерны ўплыў палітыка на газету ператворыць яе ў прапагандысцкі орган, лічыць рэдактар “Салідарнасьці” Аляксандр Старыкевіч.

На думку журналіста Аляксандра Класкоўскага, у палітыкаў адны мэты, у журналістаў іншыя, але варта знайсці паразуменне ў канцэптуальных рэчах. І палітыкі і СМІ зацікаўленыя, каб павялічыць абсяг дэмакратыі ў краіне. Тым не менш, СМІ і палітыкі –супрацоўнікі. Яны разам павінны данесці да грамадства ідэю неабходнасці дэмакратычных пераўтварэнняў. “Скажыце, з чым вы рушыце на выбары? Што прэса павінна данесці да людзей? І мы будзем пра гэта пісаць” – падсумоўвае Жана Ліцвіна.

# Работа на лето

Прошли времена, когда школяры и студенты, закинув на лето поднадоевшие книжки и конспекты, начинали отдыхать. Ездили к бабушкам, отправлялись в походы, ходили друг у другу в гости, а особенно ленивые отлеживались на диване и без конца щелкали пультом от телевизора. Современные молодые люди нынче уже не те. Даже летом они посещают курсы, наведываются в спортивный зал, занимаются самообразованием... и работают.

Из подслушанного в автобусе:

— Это я себе за собственные деньги купил, — парень лет шестнадцати деловито покручивал в руках мобильный телефон "последней" модели. — Прошлым летом у отца на заводе подработал. Сейчас снова планирую на заработки отправиться. Хочу ноутбук прикупить.

— Это потому, что у тебя батя начальником трудится. Я тоже в прошлом году мечтал подзаработать, а в отделе трудоустройства сказали, что, кроме школы, ничего мне "не светит". Зато студентам, говорят, без проблем работу найти. А когда ж это студенчество будет...

Разговор двух подростков заставил задуматься: а действительно ли школяры могут рассчитывать только на "школьные" работы и так ли легко найти занятие студенту на лето. Перед тем как отправиться в управление занятости населения за ответами на эти вопросы, решила провести небольшое журналистское расследование. Вместе с подругой, ее сыном, который как раз "загорелся" летом поработать, набираем номер одного из отделов трудоустройств Минска.

— Здравствуйте! Моему сыну пятнадцать лет, — тараторит в телефонную трубку подруга. — Хочу устроить его на работу на какое-нибудь предприятие. Какие вакансии вы можете предложить?

— Никаких, — огорошивает голос из телефона. — Женщина, вы поймите, работодателю не выгодно трудоустраивать вашего ребенка. Ему пятнадцать, а значит, по закону он не должен трудиться даже полные пять часов, зато зарплату обязан получать, как за восьмичасовой рабочий день. Плюс у него нет никакой квалификации. Теперь скажите, какой наниматель на такое согласится?..

У студента простор для деятельности гораздо больший, чем у школьника. В отделах трудоустройства ребятам могут помочь найти работу и гардеробщика, и грузчика, и сторожа, и санитара, и мойщика посуды, и продавца мороженого, и няни... Парни чаще всего отправляются работать грузчиками, дорожными рабочими, охранниками. Но одним из самых выгодных приработков считается труд разнорабочего на стройке. Проявив на такой работе старание и упорство, кошелек можно пополнить неплохими деньжатами.

Прекрасной половине найти занятие сложнее. Большинство предлагаемых вакансий требуют значительной физической силы. Ну не будет же хрупкая девочка-тростинка разгружать вагоны и мешать цемент! Девушки чаще всего выбирают труд официантки или устраиваются уборщицами. Студентки педагогического университета предпочитают работать помощниками воспитателя в детских садах или в качестве вожатых отправляются в летние лагеря. Таким образом они не только упражняются в воспитании детей, но и получают за это наличные. Хотя "завтрашние" учителя не единственные, кто хочет попрактиковаться в своей будущей специальности. Так, например, студенты медицинских училищ и институтов работают медсестрами и санитарами, учащиеся кулинарных техникумов — поварами.



Сельские ребята принимаются за работу в летние деньки более охотно, чем городская молодежь. Они и менее привередливы. Должности руководителей на трудовой месяц не требуют. Могут и улицы подмести, если надо, и корову на ферме подоить, и свеклу прополоть, и в страде поучаствовать, и книги в сельской библиотеке "подштопать"... Ребята понимают: ничего постыдного в этих работах нет, зато сколько пользы. Как другим людям, так и собственному кошельку.

Лишать ли себя заветных каникул ради пополнения кошелька — каждому студенту и школьнику решать самостоятельно. Главное, чтобы работа (хоть и временная) приносила удовольствие и удовлетворение.

Таисия ХРАЛОВИЧ, "НГ"

# Женщина в мире мужчин



Вам никогда не казалось, что этот мир придуман под мужчин, а женщины в нем – лишь дополнение? Быть женщиной в этом мире порой очень приятно, но чаще совершенно неприлично.

Из «приятных» моментов бытия прекрасным, но слабым полом, могу отметить возможность слегка покапризничать: сославшись, скажем, на ПМС, попросить любимого выгулять собаку, приготовить ужин, принести кофе в постель… Вобщем, потребовать всего, на что только хватит фантазии. Здесь же – цветы и конфеты, ношение на руках, прогулки на лодке по лунной дорожке, восхищенные взгляды, любимые шоколадные пирожные. Все то, что мужчины в душе могут любить, но никогда не признаются в этом.

Но я хотела поговорить с вами о вещах менее приятных: быть женщиной в современном мире совершенно неприлично! Не верите? Обратимся к фактам!

Помните, в детстве во дворе дрались мальчишки? Один из них непременно проигрывал схватку. И если проигравший растирал кулачками по щекам слезы и бежал домой, ему вслед кричали «обидное»: «Девчонка!». Когда ссорятся девочки, мальчишками они друг друга называть не станут.

Мальчик вырастает. Но если, не дай бог, окружающие обнаруживают в его характере слабину, не миновать ему хлесткого ярлычка «баба»!

С самого раннего детства девочек наряжают не только в платьица и банты, но и в брючки. Со временем брючки и джинсы трансформируются в деловой костюм, который становится символом успешности, целеустремленности, самодостаточности. Вчерашние девочки активно перенимают стиль поведения мужчин, чтобы доказать последним, что могут быть с ними наравне. Женственные шпильки, рюшечки, струящиеся ткани завоеванию места под мужским солнцем явно не способствуют.

Когда в кино или книгах женщина перевоплощается в мужчину, это придает сцене таинственность и героико-романтический окрас. Стоит мужчине облачиться в женское платье, и мы безошибочно определяем комедийный жанр произведения.

Дошло до того, что женщины завели в своем арсенале бритвенные станки и собственно крема для бритья, мужчины же совсем не торопятся выщипывать брови или пользоваться тональным кремом.

Женщины без страха подходят к силовым тренажерам в спортивных залах: милые кубики пресса и крепкие бицепсы-трицепсы стали для «слабой» половины человечества почти такой же нормой, как маникюр и макияж. Для мужчины же сесть на диету по-прежнему неприлично – «не мужское это дело».

В конце концов, женщины давно не прочь прослыть мужественными, мужчины за славой женственности явно не гонятся.

И напоследок, задумайтесь: как только возрастает процент женщин в какой-либо профессии, она перестает быть престижной (учитель, врач, юрист). Причем название самой профессии род от этого не меняет: врач остается врачом, а не врачихой, журналист остается журналистом, юрист остается юристом…

Адрас для допісаў:
211800 Глыбокае, а/с №2
e-mail: barmica@tut.by
http://www.belarda.org
Наклад: 299 паасобнікаў

Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакументацыі грамадскіх арганізацый, якія спрычыніліся ды выдання бюлетэня.
Пад час укладання захоўваецца мова і правапіс арыгіналу.
Надрукавана на абсталяванні сяброў